САБРАЎ С. С.

# БЕЛАРУСКІ ДЭКЛЯМАТАР



ВЫДАВЕЦТВА У. ЗНАМЯРОЎСКАГА
ВІЛЬНЯ о о о о о 1928 Г.

Addrukowana u drukarni „RUCH“, Tatarskaja 6.

## ХОЦЬ ЗА ХМАРАЮ ХМАРА.

Хоць за хмараю хмара плыве чарадой,
Сільней хмар---гэта сонца агні.
І ты, брат, не бядуй, рвіся к сонцу душой,
Яшчэ раз не засьні, не засьні!
Болей крыжам адным---гэта сьцень прад зарой,
А там лепшыя, новыя дні!
Дык ня плач-жа, брат мой, запей песьню са мной,
Яшчэ раз, не засьні, не засьні!

Янка Купала

## КРАЙ ТЫ МОЙ РОДНЫ!

Край ты мой родны! Як выкляты Богам--
Столькі ты зносіш нядолі:
Хмары, балоты.:: Над збожжам убогім
Вецер гуляе на волі:
Поруч раскідаліс родныя вёскі:
Жалем сьціскаюцца грудзі!
Бедныя хаткі, таполі, бярозкі,
Ўсюды панурыя людзі...
Шмат што зрабілі іх чорныя рукі,
Вынесьлі моцныя сьпіны;
Шмат іх прымусілі выцярпець мукі
Пушчы, разлогі, нізіны:
Кінь толькі вокам да гэтага люду
Сьцісьнецца сэрца ад болю;
Столькі пабачыш ты гора усюды:
Столькі нуды без патолі.
У гутарках-казках аб шчасьці, аб згодзе
Сэрца навін не пачуе:
Сьціснула гора дыханьне ў народзе,
Гора усюды пануе.
Хваляй шырокай разьлілась, як мора,
Родны наш край затапіла.
Брацьця! Ці зможам грамадзкае гора?!
Брацьця! Ці хваце нам сілы?!

Максім Багдановіч



## ШЧАСЬЦЕ.

Шчасьце, як сонца: маленькая хмарка
Пройдзе па небе, вышэй, сярод дня,---
Сонца ўжо сьвеціць так жутка, ня ярка,
Момант --- і сонца няма.

Шчасьце, як вішняў вясеньнія кветкі:
Вецер павее, заплача вясна,---
Ссыплюцца сьнегам на дол яны гразкі,
Момант --- і краскаў няма.

Шчасьце, як сьветлыя, ясныя думы:
Рэзкае слова, увага адна,---
Ужо абыймаюць душу маю сумы,
Момант --- і думкаў няма.

Натальля Арсенева

## НЕ БЯДУ!..

Не бядуй, што сонца нізка,
Што праходзіць, нудна дзень;
Не бядуй, што восень блізка
І налёг на землю сьцень.

Не бядуй, што сьнег халодны
Скрые землю ад вачэй:
Не загіне край твой родны
У цемнаце ліхіх начэй!

Будзе час, і сьнег растане,
Прыйдзе к нам ізноў вясна;
Ціха з неба сонца гляне,
Ачуняе старана!

Не бядуй, што цяжка стала
Жыць у вечнай цемнаце,
Што нас доля вечна гнала,
Што жывём у беднаце.

Не бядуй, што зьвісьлі хмары,
Што і сонца ня відаць,
Не бядуй, што ўноч пажары
Сталі неба заліваць...

---Пойдзе дымам ўсё ліхое,
Усё, што душыць нас і гне!
ер, што жыцьце залатое
удзе ў нашай старане!

Якуб Колас

## МОЙ КРАЙ.

Край мой там, гдзе сонца вечна
Рвецца зьяць сваей красой,
Там, гдзе мог-бы я бясьпечна
Супачыць сваей душой;
Край мой там, гдзе вечна хвалі
К жыцьцю новаму плывуць,
Гдзе пустотай нудна далі,
Песьню вольную пяюць;
Край мой там,г дзе дуб сталетні
Не патдацен глуму бур
І грабы з красы сусьветнай
Це баяцца злых віхур;
Край мой там, гдзе каля хаты
Да нябёс узняўся сад,
У час вячэрні где дзяўчаты
Апяваюць краю лад;
Край мой там,гдзе Нёман льецца
Серабрыстай паласой
Гдзе усё, усё сьмяецца,
Гдзе зіяе ўсё красой.

А, Гурло

## К ПРАЦЫ.

Была пара --- пара няволі ---
Няхай-жа згіне яе сьлед!
Няхай ніхто ад нас ніколі
Ня дасьць ні капелькі патолі
Вярнуць да ёй свабодны сьвет!

Прышла пара, калі народу
Праз сілу крэпкую яго
Патрэбна віць вянок свабоды,
Каваць дабро,братэрства,згоды
Для сьвету белага ўсяго.

Вось той, ад нас хто ясна чуе,
Што ён ня раб, а вольны сам
Усіх народаў і краін, ---
Няхай гародзе моцны тын,
Фундамант волі хай муруе!..

Ц. Гаргны



## АДЫДДЗІ-Ж ТЫ, ГОРА.

Незаўсёды неба хмарамі пакрыта
Не заўсёды смуткам сэрцайка спавіта
Адыйдзі-ж ты, гора, адыйдзі благое,
Бачым, там ясьнее небачка ціхое.

Не хачу я плакапь: сьветла ўсё і міла,
Што было --- мінула, я усё забыла,
Бо ня вечна неба хмарамі пакрыта,
Як ня вечна смуткам сэрцайка спавіта.

Натальля Арсенева

## ХТО СКАЗАЎ.

Хто сказаў „і я з народам“,
Хто з ім поплеч стаў, як з братам,
Хто пайшоў з ім роўным ходам,
К роўным зыскам, к роўным стратам, ---
З тым і я. Няхай-жа ліча,
Будзе трэба---хай пакліча.
Хто-ж сказаў, а потым здрадзіў,
Хто пайшоў, а потым кінуў,
Хто ў душы сумленьня згладзіў,
Ў кім апошні сорам згінуў,---
Хай дрыжыць. У дзень прысуду,
У страшны дзень, я сьведчыць буду!

Алесь Гарун



## АХВЯРА.

Маліся-ж, бабулька, да Бога,
Каб я панам ніколі ня быў:
Нежадаў бы чужога,
Сваё дзела, як трэба рабіў.
Каб прад меншым я носа ня драў,
А прад большым ня корчыў сьпіны
Каб грэх свой прад сабой я пазнаў
У другіх каб ня відзеў віны;
Чужых жонак ня вёў да граху,
А сваю, каб, як трэба, любіў,
Каб мне дзеці былі у слуху,
Каб я бацькам для іх век дажыў.
Каб людзей прызнаваў за братоў,
А багацтва сваё меў за іх,
Каб за край быў умёрці гатоў,
Каб ня прагнуў айчыны чужых.
Каб я Бога свайго не акпіў,
Каб ня здрадзіў за грошы свой люд,
Каб свайго я дабра не прапіў,
І нізашто ня меў чужы труд.
Каб па двойчы мне грошы ня браць,
За праданы кусочак ральлі,
Каб сваю мне зямельку гараць
І умёрці на ёй хоць калі.
Дык прасі-ж ты у Бога, малі,
Каб я панам ніколі ня быў!

Ф. Багушэвіч

## ХТО АДРОКСЯ.

Хто адрокся сваіх,
Хто стыдацца нас стаў
І прыліп да чужых,
---Каб ён сьвету ня знаў:
Мову родную хто
Пазабыў, асьмяяў,
Загубіў за нішто,
---Каб ён сьвету ня знаў!
Сваю родну зямлю
Хто чужынцу прадаў---
Скрыўдзіў вёску сваю,
---Каб ён сьвету ня знўа!
Хто з народам ня жыў
І карысьці ня даў,
Хто сваіх ня любіў---
---Каб ён сьвету ня знаў!

Г. Леўчык



## БЕЛАРУСКІЯ СЫНЫ.

Па Беларускім бітым шляху.
Б'ючы ў кайданавы званы,
Брыдзе чужынец, а з ім побач
Хто?
--- Беларускія сыны!
У Беларускім вольным краі,
З ярэмнай збрыўшы стараны,
Царыць чужынец, а ў паслугах
Хто?
--- Беларускія сыны!
Над Беларускай беднай хатай,
Як полка вырвана з труны,
Вісіць чужы сьцяг, а трымае
Хто?
--- Беларускія сыны!
У Беларскім Божым доме,
Як над касьцямі груганы,
Крумцяць чужынцы, а іх складам
Хто?
--- Беларускія сыны!
На Беларускім буйным полі.
З вясны да новае вясны
Растуць крыжы, а пад крыжамі
Хто?
--- Беларускія сыны!

Янка Купала

## НЕ ПАКІНЕМ...

Не пакінем зямелькі і Краю,
Гдзе калісь нашы продкі жылі,
Тых палёў, сенажацяў і гаю,
Гдзе крывавы свой пот пралілі..

Усе да працы выйдзем з плугам
Пачнём родную ніву гараць
І шырокі простор саматугам,
Буйным зернем вакол засяваць

Каб усюды ў нас ніва рунела
І ў гару узрастала ўвесь час,
Каласамі буйнымі шумела
І збор добры давала для нас.

Каб забылі пра гора й нядолю,
На апеку не станем чакаць!
Будзем самі каваць сабе долю
І культуру сваю пашыраць!

Хай загіне змрок цемры пануры
Ужо па ўсей Беларусі у нас;
Светач роднае нашай культуры
Каб нам вечна сьвяціў і ня гас!

Ст. Станкевіч

## ГЭЙ, НАПЕРАД!

Гэй, наперад, покі сэрца
Рвецца, б'ецца на простор,
Годзе млеці ў паняверцы;
Гэй, да сонца! гэй, да зор!
Хай бацькі стагналі ўчора,
Йшлі на той сьвет без пары;
Сёньня ў нашай моцы гора---
Мы жыцьця гаспадары!
Думка ў думку, дружна, сьмела
Усе наперад грамадой!
Кожны ведай сваё дзела,
Знай, за праўду, крэпка стой!
К новай долі шлях нам ляжа,
Як на небе млечны шлях,
Слова, дум, ніхто ня зьвяжа;
Жыць, цярпець ня будзе страх.
І ня стане больш пакуса
Першых-лепшых збоку браць
Славяніна-беларуса
Вечна ў лапці абуваць
Дык наперад, покі сэрца
Б'ецца, рвецца на простор!
Годзі млеці ў пяняверцы!
Гэй, да сонца! Гэй, да зор!

Янка Купала

## ПАГОНЯ.

Ляціць Крывіцкая Пагоня
Праз горы, рэкі і лясы,
Праз мора, акіяны, нават
За хмары пнецца ў небясы.

А гэтай слаўнае Пагоні
Ніхто ня можа упыніць,
Бо дух Крывіцкага ваякі
З мячом агністым там сядзіць.

І гэны меч падняў высока,
Прыціснуў шпорамі каня
І дзесьці прэцца ён далёка,
Аж стогне й енчыць ўся зямля.

Куды-ж сьпяшыць Пагоня наша?
Каго дух - рыцар хоча біць?
Над кім памсьціцца хоча срога,
Што так імчыць, аж ня спыніць?
Маскаль ці Лях яго угневіў,

Татарын скрыўдзіў ці Крыжак,
Грунвальдзкую пабеду можа
Прыпомніў ён і гоніць так?

О, не, каханы ты, мой дружа!
Наш слаўны рыцар ёсьць сьвяты:
Ён крыўды й эьдзекі ўсім даруе
І ворагі ў Яго --- браты.



Сьпяшыць Крывіцкі рыцар з неба
У старонку, скавану ў ланцуг,
Распутаць хоча Ен Пагоню,
У жывых братох---збудзіць там дух.

Казлоўшчык

## ЦЬВЯТОК.

Чаму позна гэтак
Ты зацьвіў цьвяточак?
Гдзе-ж ты быў праз лета,
Мілы нагеточак?

Няпрыветна хіба
Так маё ваконца?
Убога сяліба.
Рэдка гляне сонца.

Рэдка глянуць людзі,
А з блізкіх --- нікога!
Ось жабрак заблудзе
Прасіць ў імя Бота.

А мо і ты, мілы,
З знатнымі ня ўжыўся
І, як я, пастылы,
Сюды прыхіліўся?

Я. Быліна



## СКАЧЫ, БРАЦЕ.

Скачы, браце, ў роднай хаце--
Хто нам гэта забароне?
Весяліся ня смуціся --
Такі дзень сягоньня!
Доўга ждалі, выглядалі
Мы гэтага сьвятца...
Што-ж вы селі, спахмурнелі?
Весялецесь, братцы!
Весяліцесь, ня смуціцесь,
Як людзі ў грамадзе
Бо ўсё тое, ўсё благое,
Што было --- у задзе!
Бо й мы-ж людзі!. Дакуль будзе
Цемната і гора?
Эй, танцуйма, галасуйма,--
Доля прыдзе скора:..

А. Петрашкевіч

## СЛУЦКІЯ ТКАЧЫХІ

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Забыўшыся дзявочыя сны,
Свае радзімыя тканіны
На лад пэрсідзкі ткуць яны.
А за сьцяной сьмяецца поле,
Зіяе небаз-за вакна ---
І думкі мкнуцца мімаволі,
Туды, гдзе расьцьвіла вясна.
Гдзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам зьяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі.
Цямнее край зубчаты бору...
І тчэ, забыўшыся, рука
Замест пэрсідзкага узору
Цьвяток радзімы васілька.

М. Багдановіч



## ЗАГЛЯНЕ СОНЦА.

Загляне сонца ў наша ваконца,
Хатку асьвецiць праменьмі ---
Па цёмнай ночы ажывіць вочы
Боскім да працы натхненьнем.
Позна мы ўсталі, і шмат праспалі,
Гойдалі злыдні нам долю ---
Пяялі песьні нам на прадвесьні,
Песьні радасьці ў няволі.
Заход сьмяяўся --- каб ён даждаўся,
У лапцёх што з труду мы спалі ---
Усход нас мучыў цяжка --- балюча:
Хацеў, каб з душой мы прапалі.
Абы балота, будзе ліхота:
Дзёрлі нас няньки-начніцы ---
Аж да жывога --- мо' з волі Бога ---
Кроў аж зрасіла зямліцу,
Аж застагнала зямля ў падвалах,
Неба пакрыў блеск агнявы ---
З болю зямліцы, з крыві крыніцы,
Брат наш збудзіўся расьняны.
Асьвеціць сонца яго ваконца,
Злуду мар цёмных развее ---
І выйдзе з плугам ён саматугам,
Родную ніву засее.
Груган з Усходу, а крук з Заходу.
Дарма там жыру шукае ---
Бо зерне спорна, ў волю прасторна,
Хутка пад неба ўзрастае.

К. Сваяк

# ДУРНЫ МУЖЫК, ЯК ВАРОНА.

Весь сьвет кажа, б‘ецъ у звоны:
„Дурны мужык, як варона!“
Гэта-тыкі справядліва:
Ён дурнейшы ад вароны,
І ня дзіва---было-б дзіва,
Каб мужык ды быў вучоны.
Дык крычэце-ж б‘це ў звоны:
Дурны мужык, як варона.
Да навукі ён ня браўся,
Закасіўся, загараўся;
Дурнем умрэ, як радзіўся,
Сам сабой дурным зрабіўся.
Ведама мужык---хамула,---
Ад навукі адвярнула!
Дык крычэце-ж...(як раней).
Ці-ж ня дурань мужых гэта:
Гарэ, сее усё лета,
А як прыйдуцца дажынкі,
Няма збожа ні асьмінкі,
А даждаўшы на Каляды,
Мужык і мякінцы рады.
Дык... (як раней).
Усю зіму возам цягне
Да вакзалу розна збожжа.
Ногі зьмерзнуць, сам засьмягне,
А на хлеб кажух залажа,
Каб дажыць як да крапівы,
Абы ў поле вышаў жывы.
Дык... (як раней),

Ад Пятра і да Якуба
Ён касой махаў ад раньня:
Наклаў стагоў, людзям---люба,
У хаце-ж сена---ані званьня,
Равець з голаду скаціна,
Хоць кінь, бяжы за вачыма!
Дык... (як раней).
Глядзі, касьцёл аж да неба,
Воласьць бляхамі пакрыта!
Срэбрам скрые, калі трэба!
Бо за гэта яго біта,
А сам жыве у мокрай яме,
Дзьверы заткнуў анучамі!
Дык... (як раней).
З камаровы нос сякерку
Сьцісьне, крэхне, замахае,---
Зробіць пушчу, як талерку,
Сьвет дрывамі закідае!
А у хаце зварыць страву,
Пашчапае стару лаву!
Дык... (як раней).
Глядзі, горы паразрыты:
А чыгункай сьвет абвіты,
Усё з мужыцкай цяжкай працы,
Усе едуць у палацы;
У мужыка-ж нема білета!
Ці-ж ня дурань мужык гэта?
Дык крычэце-ж, бійце ў звоны:
Дурны мужык як варона!

Багдановіч

## ДА БЕЛАРУСІ.

Беларусь! жыла і жыць будзеш!
То дарма што вораг страша,
Бо дасюль гдзе не заблудзіш
Жыве ўсюды мова наша.

А пакуль жыве ў нас мова,
Не загіне край наш родны,
І мы жыць пачнем нанова
Зноў, як некалі --- свабодна!

Бо нам доля, Беларусы,
Верце--·так-жа усьмяхнецца,
Згінуць здзекі і прымусы
І нядоля ўся-ж мінецца!

Нам засьвеціць міла сонца,
Зацьвіце ўся наша ніва
І тады ў сваёй старонцы
Зажывём усе шчасьліва!

С. Станкевіч.



## У ВАСТРОЗЕ.

Вее холад ад парога,
Дзень за днём бяжыць.
Зьнікла ўсякая трывога
І ў душы няма ўжо Бога ---
Неахвота жыць.
І нашто, каму ўсё гэта?
Я-ж не ліхадзей---
Душа вольная паэта
Была думкаю сагрэта:
Вызвваліць людзей.
Людзі-ж цешацца на волі:
„Во, папаўся ён!“
Не палохае ніколі
Іх нішто так мусі болей,
Як лад новых дзён.

Краўцоў Макар

## АРАТЫ.

Ну, годзе ўжо маці! глянь сьвятло ўжо ў хаце;
Вясна заглядае ў вакно;
Ужо птушка сьвяргоча, ўжо лісьцік шапоча,
Цябе „шнур“ чакае даўно.
Хай сошка крывая, кабылка худая
І ты сам крывы і худы---
Пацягнуцца ў поле, на тое прывольле,
На тыя прадзедаў сьляды.
Ты пан, ты багаты, ты сіла, араты!
Ты ў крыўду ня даўся-б другім.
Знай, шмат каму трэба з тваей працы хлеба,
Дый сам ты галодзен саўсім.:.
Дык выпрамся-ж крышку, дый жыва за сошку,
Дый ў поле --- к вялікай арбе!
Бач, можа і долю ў няўродлівым полі
Ты выараш братка, сабе...
Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі ---
Любі сваю ніву, свой край,
І колькі ёсьць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!:.

Янка Купала



Працуй, Беларусь,
На хвалу для людзей.
Кажы, Беларусь,
Сваю праўду сьмялей.
Удар, Беларусь,
У вечавы гулкі звон.
Узгары, Беларусь,
Свой зарыты загон.
Гэй, скінь, Беларусь,
Ярмо цьмы прошых лет!
Жыві, Беларусь,
Каб жылі: воля, сьвет!

Л. Родзевіч

## Ю Д А М.

Да вас, паны, што голасна крычыце
Аб прыязьні сваей да „беднага народу“,
Што раіце палісьсяму: „Маўчыце,
Нядоўга вам дамо багацтва, волю, згоду“--
Да вас мой гэты верш і словы ўсе благія,
Бо словам вы адны, а справамі---другія.
!

„Багацтва вам“... Няма вам нашай веры
Бо ў той-жа год ліхі, як ў полі не ўрадзіла
Галоднаму на пракорм хлеба меры
Аднэй ня далі вы. І злаялі няміла...

Калі для нас жадаеце багацтва,
На што з бяздольнага зьдзіраеце апратку?
На што-ж тагды вы плодзіце жабрацтва,
Дамы пустошыце бяз ліку, без астатку?

„Мы волю вам“... Пракляцьце вам і з ёю!
Чаму ад волі вашай мы стагнаць павінны?
Яна ланцуг над нашаю зямлёю;
Астрог на наш народ спакойны і бязвінны.

Ня воля гэта! Што нам ні цьвярдзіце,
Мы вольнымі былі за даўнымі часамі.
Ідзіце-ж проч! і з воляю ідзіце!
Да волі знанае хутчэй мы прыдзем самі.

„Мы згоду вам“... Пакіньце ашуканства!
Вы---бойкі братняе чарнейшыя праракі,



Бяз звады вам, нашэптаў, падтыканства,
Нямілы Божы сьвет, ня ясны, ня шырокі!

Ня просім вас! ня трэба вашай згоды!
Сваё вялікае, дзядоўскае багацьце
Хаваем мы; ад Бога ўсе народы
І бацькі аднаго ўсе дзеці--людзі, брацьця.

Адкуль вы к нам? Чыйго племя і роду?
З якіх краёў прыйшлі бяз праўды і сэрца?
І што вам з нас, ад нашага народу?
Чаму так жычыце яму хутчэй памерці?

Га! знаем вас, атручаньня найміты:
Вы---служкі чорныя Ясьнейшага Мамона,
Вы---мора бруд, ля берагу намыты;
Бяз дум і без мазгоў, вы--золата бяз звону.

З усіх бакоў на паслугі уціску
Чаргою воўчаю зьяўляецесь усюды,
Дзе клічуць вас для крыўды, для націску
На праўду вечную...Вы...вы...імя вам:Юды!

Ідзіце-ж проч! Бязплодна ваша трата
На ласкі лісьсія. Пакіньце слова „брат!
Вы цяжкі сон. Каты... Вы горай ката!
Кругом праклятыя,вам бацька,брат--дукат

Алесь Гарун.

## ВЕРА БЕЛАРУСА.

Веру, братцы, людзьмі станем,
Хутка скончым мы свой сон.
На сьвет Божы шчырэй глянем.
Век напіша нам закон.
Не чарнілам на паперы
Гдзесь ў архівы не здаець,
Ён зьбірае поту меру
І на ніву нашу льець.
Зямлю поіць, яна родзе
Сок ў зярнятах нам на хлеб.
Спажываем, а ў народзе
Штось, як шэпча „Уставай сьлеп!“
Веру, братцы, ў нашу сілу,
Веру ў волі нашай гарт.
Чую агонь ў нас ня брылу.
Бачу, братцы, мы ня з карт,
Мы ня з гіпсу, мы з каменьня,
Мы з жалеза, мы са сталі,
Нас кавалі у пламеньні,
Каб мацнейшыя мы сталі,
Цяпер, братцы мы, з граніту,
Душа наша з дынаміту,
Рука цьвёрда, грудзь акута!
Пара, братцы, парваць путы.

Цётка

## ПЕСЬНЯ КАВАЛЯ.

Мой горан пылае
І іскры ляцяць;
Я мех уздуваю
І буду каваць...
Працую, гарую,
Як моцы стае;
Гартую, муштрую,
Зялеза мае...

Я праўду і волю кахаю - люблю
І молатам лепшую долю кую!

І гнецца парою
Зялеза і сталь,
Як возьме рукою
Здаровай каваль...
Скую, вось, касу
Загну, закручу
І выйду уночы ---
Нядолю скашу!..

У кузьні ад раньня да ночы стаю
І молатам лепшую долю кую!..

І холад і голад
У хатцы вітае,
А праца і молат
Мне моц адбірае!...

Гэй, ўдару-ж я, ўдару
Гарно разьдзьмухну
Сагну, загартую
Я сэрца --- касу!

У кузні ад раньня да ночы стаю
І молатам лепшую долю кую!..

Хведар Чарнышэвіч



## ВЫРАСЬЛІ КРЫЛЬЛІ.

Вырасьлі, вырасьлі крыльлі!
Мы сьмела ўжо можам лятаць
І думкі аб шчасьці народу,
Сьветлыя думкі сνаваць.

На крыльлях юнацкіх, магутных
Мы хочам падняць небасхіл,
З грудзей гарапашных, пакутных
Страсьці, разьвясьці хочам пыл.

Вырасьлі, вырасьлі крыльлі!
Мы сьмела ўжо можам лятаць,
Сны сьветазорныя, сны прамяністыя
Аб роднай старонцы снаваць.

А. Салагуб

## Адважна брацьця.

Адважна, брацьця, наперад ідзіце
Цьвёрдай і правай ступою.
Кожнаму ў вочы сьмела глядзіце,
Праўду нясіце з сабаю.

Карусь Каганец



Люблю, нязнаючы пуціны
Ісьці праз лес, балоты, гоні,
Мінаць квяцістыя нізіны,
Пад грушкай ў полі спачываць;

Спаткаць між жыта крыж пахілы
І старца з хлопчыкам малым,
Звычай шануючы мне мілы:
„Дзень добры“---прывітацца з ім;

Прайсьці ўздоўж вёскі беднай, шэрай,
З панурым радам сумных хат,
І думаць: як ты тут ня мерай,
А ў беднаце гаруе брат;

Ды напаткаць руіны ў полі,
Гдзе мох на рэшце сьцен узрос,
І занудзіцца мімаволі,
Згадаць замчышча сумны лёс;

Не зразумець, чаму руіны
У сабе таёмны тояць знак
І ціж ня сьветлы для краіны
Відаць наперадзе ўжо шлях?!

Ул. Жылка

## БЕЛАРУСЬ, БЕЛАРУСЬ...

Беларусь, Беларусь, --- што за дзіва!
Нейка дзіўнае хваля цячэ,
Што Тваіх поль сухая крапіва
Маіх рук маладых не пячэ.

Беларусь, Беларусь,---што за зьява:
Нейкай зьявы таёмнай пацяг
Нада мною сьмяецца крывава
І вядзе на няведамы шлях.

Ах, куды ты вядзеш маладога,
Ты пагана й звадліва мана,
Не пайду!.. У мяне ёсьць дарога...
У мяне Беларусь ёсьць адна!

На маім беларускім палетку
Расьце родны мне мой васілёк:
Я сарву гэту цудную кветку
І ўтаплю ў мае крові паток.

Хай напецца атрутае хвалі,
Хвалі струтай нявольнай парой...
Й на палетку крывіцкае долі
Хай падзеліцца болем са мной.

І калі на крвавым улоньні
Блісьне ўжо васілёчкавы цьвет,
Я сарву й на аўтары Пагоні
Палажу свайго сэрца букет.



Ах пакінь! Ах, пакінь маладога,
Ты пагана й звадліва мана,
Не пайду!.. У мяне ёсьць дарога
У мяне Беларусь ёсьць адна!

Ф. Грышкевіч.

## БУДУЧЫНЯ.

Кіпіць работа, плыве пот,
І крык і гул, як гром;
Туды-сюды снуе народ:
Будуюць новы дом.
Лапаты рэжуць глыб зямлі,
Зьвініць сталёвы лом.
На месцы даўнай старыны
Будуюць новы дом.
Штодзень угору сьцены йдуць,
Ушыр і ўдоўж кругом,
Баліць мазоль і рвецца грудзь,
А ўсё-ж будуюць дом!
Настане дзень, надойдзе час,
Мы крэпка столь зьвядзём,
І лепшай прышласьцю для нас
Быць мусіць новы дом!
Працуйма-ж, брацьця! Хай хутчэй
Наш льецца пот цурком:
Прыжджом і мы сьвятлейшых дней,
Як скончым строіць дом!

Галубок.



## Я ВОЛЬНЫ.

Што мне смутак, што мне гора?
Прэч!---я вольны, як арол!
Мае думкі--- хвалі мора,
Слова Воля--- мой сымбол!

Гэй, прастор радзімы, мілы!
Я абняць цябе хачу,
Досыць цемры нам магілы,
Досыць сьлёзаў на вачу.

Я зьбяру твой сум адчаю,
У выш бязьмежжа з ім ўзьлячу,
К сонцы дзьверы праламаю,
Цемру зьнішчу---здрузгачу.

У хвалях неба я згрунтую,
Знайду „волю без ярма“---
Волю ясную, сьвятую,
На зямлі якой няма.

Беларусь, куточак родны,
Шчасьця зорамі ўбяру,
Пад вясьняны сьпеў чароўны
Яе ліха заару.

А на гэтым, на папары
Заруніць жыцьцё красы;
Зацьвітуць даліны горы,
Запяюць бары-лясы.

Ты-ж, братко мой, кінеш з тою
Горкай доляй жабраваць...
Дык наперад! Хто са мною?
Сьвятла яснага шукаць.

Міхась Васілёк.



## О, МІЛЫ КРАЙ!...

О, Мілы край, Айчына Маці!
Гатоў Табе жыцьцё аддаці
За пышнасьць вобразаў Тваіх
Для мяне мілых, дарагіх,
Якія погляд мой пануры,
Занесьлі ў дно тваей натуры,
Уплялі ў вянок свой залацісты,
У круг той пекны брылянцісты.
Каб меў я здольнасьць апяваці,
Або як сокал ў высь шыбаці —
Я-б над Табой кружыў-лятаў-бы
І песьню ўдзячнасьці сьпяваў-бы:
За шум старых гаёў вячыстых,
І за крынічкі водаў чыстых,
За тое поле, што хвалюе
І хлеб штодзенны нам вяшчуе;
За луг, што краскамі адзеты,
Бы ўлетку дзеўкі і кабеты.
О, мілы край, чароўны краю!
Абмаляваць я сіл ня маю
Твой воблік цудны і аздобны,
Да неба зорнага падобны!
А сколькі-ж Ты цярпіш нядолі!
Усьцяж імкнешся к шчасьцю волі —
Ды ўсё дарэмна сілы губіш.
Калі-ж Ты ўрэшце зноў затрубіш?..
Мы ўжо стаім! Ужо гатовы —
Ісьці парваць Твае аковы!...

Марвіч.

## МАРШ.

Сьмела пад сьцягам Пагоні,
Брацьця, сягаем ўпярод!
Родныя клічуць нас гоні,
Хто-ж устрымае наш ход?

Досыць чужынцаў навала,
Мучыла родны наш край,
Досыць ужо нас таптала...
Гэй! Хто жывы, паўставай!

Дружна працоўнай рукою
Новы пралoжыма шлях,
І панад роднай зямлёю,
Горда ўзаўецца наш сьцяг,

Дык ў каго сэрца агніста
Б'ецца ў магутных грудзёх,
Пойдзем да волі ўсе чыста,
Пойдзем, хто крыўды ня змог!

За срыбнаю ценьню Пагоні
Увесь Беларускі Народ,
Родныя клічуць нас гоні,
Хто-ж устрымае наш ход?

Вітэблянін.



## З ПЕСЬНЯЎ МОЛАДАСЬЦІ.

Праз сумны і шэры
Рад цяжкіх няўзгод;
Мы поўныя веры
Ідзём у паход.
Ідзём з вольным клічам:
„Гэй, брат, не стагні,
З бадзёрным абліччам
Да сонца цягні“!
Скуём, пабудуем
Стальныя рады;
Жыцьпя не шкадуем,
Дамо заўсяды.
Як толькі пакліча
Народ, мы пайдзём,
Няхай на нас ліча,
Мы ўсё аддадзём
За шчасьце і долю
Свае стараны.
Мы любіма волю,
Мы волі сыны.
Дык сьмела й вясёла
Цемру разьвеем,
Мы іскры наўкола
Ветрам расьсеем.
Сьцягою ірдзістай,
Туды з усіх сіл,
Дзе краскай агністай
Цьвіце небасхіл!

А. Бартуль.

## ДА СТАРОНКІ.

Старонка, Родная ты маці!
Калі-ж Ты вырвешся з акоў?
Каб было можна сьвяткаваці
радасьць і волю Тваіх сыноў.
Калі звон Полацкай Сафіі
загудзіць вольна над Табой
і сьцяг наш бел-чырвона-белы
Акрые ўсю Цябе сабой?
Калі распутае Пагоню
дух-рыцар слаўны і сьвяты
й праскача віхрам над Табою,
й галосна крыкне: ўстаць браты

Казлоўшчык



## ДА БЕЛАРУСІ.

Беларусь, ты не загінеш,
Беларус, ты не памрэж!
Волі---долі не пакінеш,
Варагоў перамажэш.
Беларус, ты маеш многа
Сёл, мястэчак, гарадоў,
І дадуць яны даволі
За свабоду ваякоў.
З імі крыж свой цяжкі здымеш
Той нядолі, што нясеш,---
Беларусь, ты не загінеш,
Беларусь, ты не памрэш!

Я. Беларус

## НОВАЯ ЖАЛЕЙКА.

Дзіўная рэч нам зьявілася:
Мары ўвайшлі у жыцьцё,
З краем маё аднавілася
Сэрца і з ім пачуцьцё.
Смутныя струны, парвіцеся,---
Годзе вам жудасна ныць.
Больш ужо, сьлёзы, ня ліцеся:
Сонейка шчасьця блішчыць.
Кіну жалейку журботную,---
Стала ў жыцьці нам сьвятлей,
Кіну я песьню маркотную
І запяю весялей.
Зроблю жалейку я новую,
Жыцьця сяброўку маю,
Сэрцам вясёлым маёвую
Песьню аб волі сьпяю.

Я. Журба



## ПАКРЫЎДЖАНЫ ЗЛОДЗЕЙ.

Неяк ў цёплы вечар лета,
На кватэру да поэта,
Які выйшаў ў бліскі лес ---
Злодзей праз вакно улез.
Шмыгануў ён туды-сюды,
Пуста, хоць зарэж, усюды!
З рэчаў ува ўсёй кватэры —
Крывы стол, на ім паперы, —
Кніжкі старыя, газэты.
Пара крэслаў, табурэтаў;
У кутку---стаіць тапчан,
Міска нейкая, ды збан...
На падлозе--- ўсё акуркі.
Каўбасы „гарбатняй“ скуркі,
Крошкі хлеба, сьмяцьцё, бруд...
Што украсьці можна туд?
Нечым ўсьцешыць на‘т і вока!
Злозей тут ўздыхнуў, глыбока;
Плюнуў дый сказаў са злосьцяй,
Вось і лезь к такому ў госьці!
Нічога жулік сам ня мае,
А кватэру запірае,
Быццам нейкі багацей,---
І ўводзіць ў грэх парадачных людзей

Д. Б.

# У ЦІЯТРЫ.

Сяджу я, браткі, у тым самым ціятры, аж зараз адзін у скрыпку---пісь, другі падняў трубу---прагудзеў, трэці павешаў рагавень зарухаў. Кожны наладзіў для парадку свой штрумэнт. Слухаю я: нязграбна, трубяць, ды ня тым трахтам. Скугуляць, аж ня лоўка слухаць. Той-жа, што сядзіць пасярэдкі, меціў, меціў, ды як маханець пугаўём, а тыя, што з бакоў, кожны з свайго штрумэнту як сьцебануць, як раўкнуць, як сыпнуць! Во, браткі, каго паслухаць! Ого-го! Гэта ня жарты!.. Панасавы цымбалы?---Цьфу! Нічога ты, Хвядос, нярварты пасьля таго!.. І Пятрусёва скрыпка і блізка не падходзіць! Крый, Божа! Калі-б усе цымбалы сабраць, і самога Язэпа і Маркаву дуду, і Зьмітравых мальцаў у рад паставіць, і Сідару пугаўё ў рукі---і то ні блізка! Барані, Бо-о-ог! Таму ні трубы, ні басэтлі, ні паўдзежкі... Якія трубы? што дым ідзець. --- Цьфу! Ату табе. Мікіта, ату, балота! Што ты відзеў? Нічога ты ня відзеў! Ты відзеў толькі балота, вёску ды сьвіней!.. Труба гэта бліскуча, як самавар, з найлепшага масяндзовага матар'ялу. Адна равець, другая храпіць. Ву-ву-ву--во як.

Ізноў-жа дудкі, наўродзе жалеек, тыя больш вярха, ціль-ціль-ціль, гдзе пісьнець, гдзе сьвісьнець! Басэтля-ж здорава гудзіць, ды і работы з ёю даволі. Жарты --- ён чэшаць смыкам, аж лоб трэць. Здаровая махіна, досыць працы! Ну і так з драбязы ў скрыпку драбняку падсыпаюць даволі, валяць у вадну руку і ўсе па кніжках глядзяць. А той пугаўём ведай махаець і туды і сюды, проста пад нос бліжэй падступаець. Жарылі, жарылі, тады сталі, а жалейкі і скрыпкі давай самі па сабе розныя штукі вывадзіць. Вывадзяць, скуголяць. І труба да іх патроху прыстала. Я-ж думаю, вось табе й раз! Зьбілісь на быкі... Аж зараз той самы пугаўём як махнуў к таму, што на канцы сядзіць, а той размахнуўся булдавешкай ды як дасьць па паўдзежку, а паўдзежык --- лоп, лоп, лоп!.. Аж проста ў пяткі колець. Пад канец-жа, як разыйшліся, як сыпнулі барджэй, барджэй, ён пугаўём жарыў, жарыў і---бац! Сталі ўсе і стаяць..

Паны ці былі? Ды так што ўсе паны. З нашых, з мужыкоў, ня відаць. І я дастукаўся затое, што Сымонаву капоту апрануў і ў Трахіма ботаў дастаў. Ня ўсякага і пусьцяць. Дзе я сядзеў? Уверсе. А ўнізе---паны, на зямлі, знацца, на сьценах паны. Як --- на сьценах? А так, калі, прыкладам, прыбіць да сьценак кошыкі і ў кошыкі наторкаць розных паноў, а ў сьцяне зрабіць вокны. а ў вокнах дзьвер, а цераз дзьверы ход. Дык вось ты, прыкладам, сядзіш у кошыку, а захацеў вон, адчыніў---і валі, куды хочаш... Табе сьмех, балота ты!.. Толькі ўнізе паны

найбольш з мужчын, сьпераду з лысых болей тады з вайсковых, з вурадікаў, з прыставоў а на сьценах паны з панятамі і з жонкамі. Але вабраны ўсе, воўк іх еж, --- лоўка. Праўда, танкаваты троху з бакоў, але нічога. Усё болей у чырвоным ---а рукі голы, як вось, калі, дзяжу месяць бабы, і так каля шыі не зашпілена, на галаве валасы памялом, а самі фуфырацца, смяюцца, вачамі во гэтак, а тыя, адзаду што стаяць, --- у іхнае вуха нешта шэпчуць. Там-жа на кошыку скрыначкі ад табакі: з тых скрыначак пані патроху бяруць і памалу каштуюць у прыкуску.

Тады што было? Тады, як сыгралі троху, кожны пайшоў адпачнуць, і я драбануў. Усё болей каля боку цзяржу і ўсё віджу. Паны лупяць у харчэўню і зараз за гарэлку. Праўда, сьцябаюдь лоўка. Толькі ня так, як у нас: у нас болей проста з горла ды ў горла. А там кілішкі, як журавель, і закуска, і рыжы чалавек каля іх бегаець. Я, гэта, выняў цыбук, хацеў пакурыць... Аж нейкі курносы кажаць мне; „А ты што?“---„Я, кажу, з гарладзёркі“. А ён мне кажаць: „Падальшы, падальшы!“ Я тады каля сьцяны, ды ў дзверы, ды ня ў тыя. Заблудзіўся. Во, каб цябе! Праўда рыжы падышоў, паглядзеў н мае дакумэнты, ды мяне за руку, ды за плячо ды на лесьніцу: „Калі, кажаць, ты згарладзёркі, дык і сядзі на гарладзёрцы“.---



„Я кажу, заблудзіўся троху“. --- „Ідзі, кажаць, пакуль па шыі не палучыў“. Але, ўсёткі, відаць з благародных і гаворыць ласкава, і ня штурхаець. Я вышэй, вышэй, бокам і трапіў на свой трахт, ды на свае дываны.

Гляджу на бакі, уверх, уніз. Аж разам той самы пугаўём---шарах! А тыя хто ў трубы, хто ў скрыпкі... Тады, браткі і сьцяна паднялася. Да душы-ж паднялася! Сьцяна такая намалёваная, з конямі. Гляджу я. Божухна Ты мой! Выскачыла многа ўсякага люду, але не ад тутэйшых паноў, і давай пяяць. Расьпінаюцца, крычаць, гойкаюць, бегаюць, скачуць усё во гэтак падскокам. Тады к ім выскачыў нехта белы ў балахоне. Бегаець, скуголіць і рукой во гэтак паказвае. Ізноў якая-то баба ці-то маладзіца да іх падскочыла. Пішчыць, плачаць, аж за сэрца хапаець. І Бог ведаець, якое што тут зачыналася, аж у ваччу замітусілася. Нічога не гавораць, а плачуць, гойкаюць, за горла хапаюць, рукі ўверх падымаюць. Во так болей: го-го, го-го, гі-гі-і! Зайцоў зганяюць? Не-е! Гэта не балота! Я сам сьпярша думаў, што, знацца, гоняць каго, аж не-е. Яны так межа сабой. Пакрычаць, пойдуць адзін к аднаму, абнімуцца, пацалуюцца і ўзноў разойдуцца. Тады белы, што ў балахоне---падыйшоў к таму, што з пугаўём, і пачаў крычаць, крычыць адзін, аж голас трасецца, і руку к яму

цягне, пугу, мусіць, хоча схапіць, а той, ведай сваю справу---жарыць, а той тонкі каля басэтлі працуець. Гляджу я: сьцянаваліцца, валіцца,...і закрыла таго, што ў белым. А паны давай крычаць, б'юць у далоні, дзяруць горла, аж вочы вон. Найболей з гарладзёркі, нагамі навет стукаюць. І тыя, што ў кошыках, плёскалі, але патроху... Усякі на ўсю сілу крычыць; брысь, брысь, брысь! а другога нічога не разабраў. Крычалі, покуль белы цераз дзірку галаву не прасунуў. Прасунуўся і кланяецца. Во гэтак. Ен-жа пайшоў к сабе, а яны ізноў крычаць; так крычаць асабліва з гарадлзёркі, што аж вочы на лоб. У, мяне аж у вушох затрашчэла. Думаю сабе: пайду прачухаюся на холадзе. І пайшоў каля сьценкі, збачыўшыся, ды на лесьніцу, ды па лесьніцы, ды к дзьверам, ды к другім (тут я ізноў лысых увідзеў; мусіць к гарэлцы пайшлі), ды к трэцім, ды за дзьверы. Гляджу, аж Сымон і Трахім мяне чакаюць, піпкі паляць. ---- „Хадзі, кажуць, дамоў, бо мэндаль запрэць кватэру. Заўтра, кажуць, рана трэба на машыну".---Во, каб вы выхварылі! яшчэ, кажу, прыстаўленьне будзець!" А яны: „Мае боты, мае капоты, трэба на машыну"...

А што рабіць? Як не мае, знацца, боты, ды не мае капоты, дый ад кумпанства не аставацца, дык я й драбануў з імі на кватэру, а тады і дамоў.

Дык вось якая справа, а ня тое, што Панасавы цымбалы... Цьфу!

А. Пчолка.

## АБРАЗКІ.

Я чуў, як мой брат-беларус сьпяваў свае песьні:

Божа! Колькі мукі і енкаў у ягоным голасе, колькі скаргі страшнай у гэтай песьні, што выходзіла з яго грудзей і смутна і нудна лілася па полі, аддавалася гулка ў лесе і падымалася вышэй і вышэй---аж да сіняга неба!

За сэрца хапала гэтая песьня---песьня мужыка-нявольніка:

Загудзелі ў душы ўсе струны, а з грудзей вырваўся енк і на вачох закруціліся сьлёзы:.:

Бедны, бяздольны народ; сьлязьмі і потам заліта зямелька:

о о о

Вот вёска, дзе жывуць мае браты:

Дрэненькія хацёнкі прыляпіліся адна да аднэй; абапол стаяць хлявы і паветкі; дзеня-дзе ўгледзіш садок: Толькі рабіна, што плача чырвонымі сьлязьмі, ды кудравая бяроза ды хвойка веквечна глядзяць на тваю, беларусе нядолю...:

Як смутна!.:

А кругом раскінулася шырокае поле. Як мурашкі высыпаліся туды мужычкі і, сагнуушыся над цяжкімі сохамі, аруць усохшую зямельку: Тут уся іх надзея, усё багацьце, усё іх шчасьце:::



о о о

У беднай, курнай хатцы, на канцы вёскі, гарыць лучына, уткнёная ў сьцяну. На скрыпучай жэрдцы вісіць калыска, а ў ёй ляжыць галоднае дзіцятка. Над ім, сагнуўшыся, стаіць маці і пяе песьню---нудную, смутную песьню, а ў тэй песьні столькі енкаў, столькі нявыплаканых сьлёзаў, што самому хочацца плакаць разам з ёю, плакаць і крычаць на ўвесь сьвет: „Ратунку! Падмогі!..“

А там, у куце, на лаве варушыцца нешта пад кажухом. Гэта хворы мужык-гаспадар хоча падняцца, каб напіцца вады---і ня можа. Яго кінулі сілы: цяжкая непамерная праца падтачыла яго здароўе, і вось ён ляжыць, бядак, зьвесіўшы мазалістую руку, і сьпёкшыміся губамі шэпча: „Піць“, а пасьля доўга-доўга кашляе... Відаць, што ўжо апошнія свае дні дажывае мужык. Гэта канец гаротнага жыцьця.

о о о

Вот магільнік, гдзе ляжаць косьці нашых дзядоў і бацькоў.

Некалькі хвоек, ліп і бярозак, з паўсотні згніўшых крыжоў --- і ўсё...

Як ціха, як смутна.

Нішто не нарушае вечнага сну нябожчыкаў, --- іх адпачынку па цяжкім бяздольным жыцьці. Толькі часам закрычыць сава, што зьвіла сабе тут гняздо ў дупле старой ліпы,

закаркае варона, закукуе-загалосіць зязюлька над мужыцкай нядоляй. Заўтуруюць ёй сваім шумам хвойкі і бярозы ---- і ізноў усё сьціхне, засьне...

Вось ты які, мой родны край!

Смутак вее ад тваіх вёсак, ад палёў тваіх і лясоў, ад рэк і вазёраў, і ад тых крыжоў, што стаяць пры дарогах. Смутак чуваць у тваіх песьнях-скаргах, мужык беларускі; смутак і надзея ў тваіх малітвах, што да Бога шлеш.

Смутак і скарга...

Люблю цябе, мая родная старонка. мая матка --- Беларусь! Ты выгадавала мяне, ты мне паказала нядолю і сьлёзы маіх братоў.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Віджу----ўсходзяць над табой зоркі ясныя. Усё сьвятлей робіцца ў табе...

Веру---ўстане сонца, пашле яно нам свой сьвет, разгоніць туман, што спавіў цябе, Беларусь!

Прыдуць для цябе лепшыя часы...

Для сыноў тваіх зачнецца новае жыцьцё-- вольнае, сьветлае! Стануць яны ўрад са старэйшымі сваімі братамі і дружна возьмуцца да агульнай працы, а ты, маці, падымеш спаняверапую дагэтуль галаву і сьмела будзеш пагляддаць у ясную будучыну, што нясе тваім дзяцём лепшую долю лепшую славу!

Пётра Просты.



# У ШЭРУЮ ГАДЗІНУ.

Якая жуда глядзець на жыцьцё людзёў!..

Якія цярпеньні задаеш ты, чалавеча, брату чалавеку!..

Паглядзі навокал: вось вялізарныя гарады, быццам легендарныя вяліканы-волаты, разлажыліся на целе маткі зямліцы.

Які страшны абраз жыцьця вытварыў ты на зямлі!.. Багацьцем карыстаюцца адны маленькія жменькі, а цэлая грамада бедных і цёмных топіцца ў бязмерных, без канца цярпеньнях.

Колькі там роскашы, багацтва, колькі вялікае мудрасьці!.. А колькі разам з тым там поту, сьлёз і крыві!..

І ўсё гэта нарабіў ты, чалавек, маленькі чалавек!

Глядзі: вось адзін змучаны думкаю як-бы ўвясьці ў сваё добрае жыцьцё больш магнацкае роскашы, а другі змучаны непасільнай працаю стаіць перад палацам пана з працягнутай рукою; і віхры сьцюдзёныя заглушаюць яго стогн... просьбу!

І ўсё гэта нарабіў ты, чалавек! Маленькі, пракляты чалавек!..

Ты праменьні прасьветы даў адным, а ўсіх другіх закапаў у цемру няведы...

І мучацца яны там, і галосяць да гэтае сьвятыні...

І пракляцьцямі асыпваюць цябе — чалавеча!..

І многа памірае іх з жуды і з нуды па сьвету... У салодка-чароўным сьне праходзіць дарагая часіна, часіна бурнае, шалёнае моладасьці, каторая так заважвае на шчасьці і псуе яго быццам чэрві...

Што-ж ты, так глядзіш холадна, як вужака ды яшчэ падсьмейваешся?..

Ох, што там цярпеньне! Хай стогны паміраючых будуць для цябе прыгожай, мілай музыкай!

Глядзі! Паранены, пагарджаны, загнаны ў працы дзеля кавалка хлеба раб твайго сытага жыцьця ўстае і просіць у цябе сьвету...

Годзі прасіць цябе, чалавек, ты не міласэрны!..

Слухай, чуй! Трашчаць, рвуцца кайданы, каторыя трымалі імглу і цемру ад праменьчыка сьвету, нявольнік устае...

О, мысьлячы зьвер! Ты зрабіў з свайго брата—нявольніка, ты параніў яму сэрца, ты адурыў яго розум, ты налажыў на яго цяжкае ярмо працы не для яго, а для цябе, ты не даў яму часу задумвацца над сабою і ён не пашкадуе, не пажалее цябе!..

О, ясны сьвет праўды!.. О, людзкая радасьць! прыйдзі да замарыўшагася пагарджанага брата, дай яму падняцца з выкапанае ўжо магілы і дай сілу ўваскроснуць да новага жыцьця!..



О, вялікае чалавечаства, што ідзеш і пашыраеш думкі аб правох чалавека і грамадзяніна, аб правох народаў да тварэньня свайго жыцьця, прыйдзі да нас хутчэй ды напоўні западлыя грудзі маіх братоў паветрам ажыўляючае свабоды, дай сэрцам іх братнюю любоў, а розуму — сілу да новае, спорнае працы на карысьць усіх і кожнага.

Хай закрасуе вольны край і народ!..

Ф. Станілевіч.

# ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Хрыстос Уваскрос!

З вялікім сьвятам ад'вечнага аджыўленьня віншую цябе, Вялікі Беларускі Народ!

Гэтай вялікай ночы страсі з сябе ўсю пагарду, ўвесь бруд, каторым аблепліваюць цябе ад вякоў. Чыста вымыйся, прыбярыся ў найлепшую вопратку, каб хоць на адзін дзень стаў ты роўным з усімі. Ідзі туды, дзе пачуеш гэтыя вялікія словы:

Хрыстос Уваскрос!

Услухайся ў іх. Якая вялікая сіла, які ўсёажыўляючы зьмест захованы ў іх. Ці ня чуеш, як радасьцю надзеі, радасьцю скорага ўваскрасеньня вее на цябе ад гэтых слоў:

Хрыстос Уваскрос!

Радуйся, мой родны краю. Надзея як жывучая вада, льецца ў тваю душу. Скора і ты ўваскрэсьнеш ад доўгага мёртвага сну. Вясна прыйшла і для цябе.

Хрыстос Уваскрос!

Над ім зьдзекаваліся. Яго білі па твары, сьцёбалі бізуном. Плявалі на Яго. Кпілі з Яго. У канцы расьпялі і расьпятага не пераставалі мучыць. Сьпечаныя смагай вусны звільжывалі воцатам і жоўцю. Ён памёр на крыжу паміж двух разбойнікаў. Але ўсё-ж-ткі.

Хрыстос Уваскрос!

Уваскрос Хрыстос, і крыж, раней знак пагарды і сораму, зрабіўся сьвятыняй усяго сьвету. Мукі Хрыстовы змылі ўсё з яго І што году вялікай вясеньняй ночы тысячы цэркваў і касьцёлаў сьвецяцца агнямі сьвечак, льецца радасны пераклік званоў, крыж падыймаецца над мільёнамі схінёных галоў і ў паветры носіцца радасны шэпт:

Хрыстос Уваскрос!

Што гавораць табе званы, Беларускі Народ? Ці ня віншуюць яны цябе яшчэ і з тваім уласным вялікім сьвятам? Скора-ж і ты ўваскросьнеш!

Ад вякоў пагарджалі табой, тваёй мовай; ад вякоў мелі за быдла, годнае толькі на цяжкую, надсільную работу, не давалі табе расьці і разьвівацца. Воцатам чужое культуры зьвільжалі твае сьпячоныя смагай сьвету вусны. Лепшых тваіх сыноў адрывалі ад цябе, прымушалі іх зрабіцца здраднікамі. А цяпер пышаюцца імі, называюць іх сваімі. І яны такі іхнія.

А хіба-ж яны ня любілі цябе? Хіба лепшы жар свайго сэрца ахвяравалі яны не табе? А гдзе яны?

Іх няма з табой. З самага малку адарвалі ад роднае глебы, атруцілі здрадай. І іх тваіх, дзяцей, маюць за зброю проці цябе.

Цябе катавалі. Ты цярпеў мукі, але ня ўмёр. Глыбока, глыбока ты захаваў сваю душу.

Хрыстос быў з табой у тваіх муках; і Ён разам з табой цярпеў іх. Колькі разоў расьпіналі Яго разам з табой! Больш разоў, чым

ёсьць пясчынак на дне мора! Але кожнага году па ўсёй Беларускай зямлі разносіўся кліч:

Хрыстос Уваскрос!

...І ты ўваскросьнеш, мой родны краю! Скінеш з шыі ярмо адвечнага гора і нуды.

Дагэтуль мы плачам, да гэтуль мы стогнем.
Адвечных ня можам пазбыцца сьлёз...

Ты ўжо перастанеш плакаць. Ты падняў свой твар, з надзеяй ловіш зыкі званоў:

Бом! бом!.. Прачыхайся ад сну, Беларусь! Годзі стагнаць ды жаліцца, жальба нічога ня дасьць табе. Уставай! Ідзі будаваць зруйнаваную бацькаўшчыну!

„Наперад па шчасьце! Хай злое ўсё ддогне!
Вясна ўжо на сьвеце---Хрыстос Уваскрос!“

Я бачу, як сьвятлее твой твар, мой родны краю. І, по˘ны сілы і веры, крычу на ўсю моц тваім нівам, лясом і балотам, тваім панурым вёскам, тваім пакрыўджаным сыном:

---- З вялікім сьвятам віншую! З вялікім сьвятам, Вялікі Беларускі Народ!

Хрыстос Уваскрос!

Полуян.

## САПРАЎДНАЯ ДРУЖБА.

Няпраўду кажуць, што ў наш век,
Ня знойдзе дружбы чалавек,
Ні дапамогі, або рады.
Здараюцца й цяпер прыклады,
Шчырай і сэрдэчнай дружбы,
І безкарыснай другім службы.
Адзін вось тутка яркі вам
Гэткай дружбы прыклад дам:
Нядаўна, ў вечар (была цёмна)
Падмацаваўшы сілы скромна
І крышку выпіўшы пры тым,
Ішлі завулачкам глухім
Два прыяцелі з вячэры,
Сваей шукаючы кватэры.
З далёку мігаў дзесь фанар
Асклізь ў балоце тратуар:..
А іх, прызнацца, грэшна цела,
З роўнавагай спрэчку мела:
І вось адзін з іх зачапіўся,
Дык бразь! як доўгі паваліўся!
--- Ой не магу я ўстаць на ногі,
Без тваей, браток, падмогі!
Ня дай у балоце каб прапаў!..
З енкам бедны марматаў.
І той на просьбу адазваўся
Цадняць прыяцеля узяўся.
Аднак: як толькі ён нагнецца:
Зараз: іік! дый ў бок хісьнецца,
Наровіць ўперад --- цягне ўзад...

І так і гэтак — ўсё ня ў лад.
Урэшце так раз хістануўся,
Што на сябру расьцягнуўся...
Тады абняўшы яго кажа:
Пе-перашкаджае... сіла ўража!
Я братка... хочу... дапамоч,
Ды цёмна вось... цяперка ноч...
А кінуць не магу... мілягу
Дык вось: з табой я побач лягу...

Б. Д.